**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 25 (898) 22 чэрвеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае







Папулярнае месца адпачынку глыбачан – Дэндралагічны сад. *Фота Ул. Скрабатуна.*

















**Увага!!!**

**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**

**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная –** 636682 , кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.







ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10025

### Полацкі раён

# Флагман сам на каленях

■ Кастусь Александровіч

**Невыпадкова на чарговы Дзень горада ў Наваполацку адмовіліся сёлета ад традыцыйнага гала-канцэрта.**

На асноўным горада–ўтваральным прадпрыемстве, НПЗ “Нафтан” сітуацыя склалася значна горшая, чым у іх калег у Мазыры. У абодвух заводаў-гігантаў сур’ёзны спад у нафтаперапрацоўцы, а ў нафтанаўцаў – яшчэ больш, бо яны займаліся пастаўкамі паліва на ўнутраны рынак. З-за зніжэння сусветных цэн на нафту, скарачэння паставак нафты з Расіі, працяглай замарозкі цэн у краіне разам два заводы недаатрымалі летась амаль 2,9 мільярда долараў валютнай выручкі. Між тым “Нафтан” яшчэ ў мінулым годзе павінен быў завяршыць сур’ёзную праграму мадэрнізацыі, каб выйсці на глыбіню перапрацоўкі сыравіны больш 90 %. Аднак працаваць у новых умовах і пачатай балючай падатковай рэформы ў нафтавай галіне Расіі аказаліся нyздольнымі. Ужо і А. Лукашэнка прызнае, што завод у нафтаградзе ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі і просіць дапамогі ў дзяржавы. З-за сур’ёзных фінансавых праблем і закрэдытаванасці завода-гіганта ў Наваполацку завяршэнне яго мадэрнізацыі перанеслі на сярэдзіну 2019 года. Вось толькі з-за ранейшых пралікаў у вызначэнні стратэгіі развіцця айчыннай нафтаперапрацоўкі, адсутнасці дакладных дзеянняў урада краіны ў гэтым пытанні існуюць апасенні, што такія планы могуць не збыцца. Навапалачанам патрабуюцца вялізныя сумы на сотні мільёнаў долараў на мадэрнізацыю свайго завода. Але ўзнікае пытанне, дзе іх знайсці. Акрамя кітайскіх крэдытаў адным са спосабаў вырашыць праблему можа стаць далейшае павышэнне цэн на паліва на ўнутраным рынку.

### Докшыцкі раён

# А ў нас у хаце газ

■ Станіслаў Раманчук.

**Даволі хуткімі тэмпамі вялася ў Беларусі апошнім часам газіфікацыя і трэць насельніцтва краіны ўдалося забяспечыць прыродным газам.**

Эканамічны крызіс і будаўніцтва АЭС прыпынілі дзеянне гэтай дзяржпраграмы, але даброты цывілізацыі пакрысу працягваюць прадастаўляць жыхарам глыбінкі. Пашчасціла і жыхарам аграгарадка Барсукі Докшыцкага раёна, куды напрыканцы вясны падвялі газаправод. Доўга чакаць такой падзеі вяскоўцам не прыйшлося, бо на выязным прыёме грамадзян просьбу двух мясцовых жанчын выслухаў і паабяцаў дапамагчы старшыня ніжняй палаты парламента Уладзімір Андрэйчанка. У гэтым накірунку дзейнічала і кіраўніцтва раёна, якіх падтрымалі ў адпаведным Міністэрстве энергетыкі Беларусі, у “Белпалівагазе” і “Віцебскаблгазе”. У гэту вёску газ падвялі хутка і першымі падключылі два 8-кватэрныя жылыя дамы. Тут пачалі будаваць і размеркавальныя сеткі, неўзабае блакітнае паліва паступіць і ў астатнія шматпавярхоўкі, 244 жылыя дамы і на зернесушыльны комплекс гаспадаркі. З гэтай нагоды на ўрачыстасцях ганаровыя госці разам з главой вобласці М. Шарстнёвым запалілі перад Домам культуры сімвалічны факел. Свята прадоўжыў прыгожы канцэрт у гонар спецыялістаў, якія падвялі сялянам газ. У адрозненне ад суседзяў, у Бярэзінскім краі газіфікавана акрамя райцэнтра яшчэ 16 населеных пунктаў. Сёлета ў раёне зарэгістравалі яшчэ 8 новых кааператываў, жадаючых зрабіць сваё жыццё яшчэ больш камфортным. Намечана пабудаваць 3 новыя размеркавальныя газаправоды ў сельскай мясцовасці.

### Віцебская вобласць

# Гінуць людцы ў вадзе

■ Чэслаў Якубовіч.

**Пачатак сёлетняга лета спякотным не назавеш, аднак за некалькі дзён у розных кутках вобласці былі зафіксаваны выпадкі гібелі людзей у вадзе.**

Вось і рыбакі ў Наваполацку ў пачатку чэрвеня ўбачылі ў рацэ Заходняя Дзвіна ўсплыўшы труп пажылой жанчыны. Асобу загінуўшай устанавілі праз некалькі дзён, калі ў міліцыю звярнуліся родныя з заявай аб знікненні 78-гадовай пенсіянеркі. Прычыну яе гібелі выявяць спецыялісты пасля правядзення шэрагу неабходных экспертыз. Аднак мяркуючы па папярэдніх дадзеных, падставай зыходу ў іншы свет магло стаць самазабойства. У суседнім Верхнядзвінскім раёне не збіраўся зводзіць рахункі з жыццём жыхар вёскі Сенькава. У свой апошні дзень ён стаў ставіць сеткі на мясцовай сажалцы, але толькі заблытаўся ў іх і недарэчна загінуў. Таксама недарэчна пайшоў з жыцця і жыхар Шаркоўшчынскага раёна, у якога была другая група інваліднасці. Нягледзячы на гэта, мужчына засачэў палавіць рыбу з берага імклівай па цячэнні ў гэтым месцы ракі Дзісна. Як на бяду, у загінулага пачаўся прыступ эпілепсіі, нікога побач з ім не аказалася, ён упаў у ваду і загінуў. Не пабаяўся даволі халоднай яшчэ вады нігерыйскі студэнт з Полацкага дзяржуніверсітэта. У кампаніі сваіх землякоў вечарам на возеры паблізу горада малады хлопец скокнуў з пірса і ўтапіўся. На жаль, з пачатку года ў Прыдзвінні на вадаёмах знайшлі сваю пагібель 15 жыхароў вобласці, з якіх двое дзяцей. Масавы купальны сезон толькі распачаўся, і таму ўсім, хто будзе адпачываць на ўлонні прыроды, варта памятаць аб захаванні элементарных правілаў бяспекі на вадаёмах. Трэба кожнаму не лезці п’яным у ваду, разлічваць на свае сілы, не купацца ў незнаёмых і недазволеных месцах.

# Аб самым надзённым

## Беларусі не хапае грошай не толькі на мадэрнізацыю сваіх НПЗ, большасць сфер эканомікі не здольныя выйсці на заробкі 500 долараў




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Павялічыць заробкі беларусам можна толькі рэальна старым спосабам, калі ўключыць друкаваны станок пустых грошай. Аднак у такім выпадку неўзабаве мы атрымаем зноў адчувальны рост цэн, адначасова аслабее і беларускі рубель, вернуцца валютны крызіс і макраэканамічная нестабільнасць, што ўжо раней праходзілі.**

Пачатак лета не вельмі парадаваў многіх беларусаў, бо доўгачаканага цяпла мы не дачакаліся. Наадварот прайшоўшыя выпускныя вечары ў школьнікаў і першыя выпрабаванні на ЦТ пачаліся на фоне дажджоў і парывістага ветру, быццам у пачатку восені. Дарэчы, з-за веснавых катаклізмаў надвор’я ў нас на Віцебшчыне сёлета толькі 5 з 21 раёнаў вобласці справіліся з заданнем па сяўбе зерневых і зернебабовых, недастаткова было пасеяна і траў, праведзена іх перазалужэнне. У дадатак краіна даведалася, што адна з важнейшых яшчэ нядаўна галін айчыннай эканамікі – нафтаперапрацоўка таксама ў глыбокім крызісе.

Ранейшыя флагманы, заводы ў Наваполацку і Мазыры, як было аб’яўлена, па эфектыўнасці ўкладу ў ВУП Беларусі зраўняліся з адной такой кампаніяй, як “Белтелекам”. Кіраўнік дзяржавы не хаваў сваю занепакоенасць і прама сказаў на чарговай нарадзе ў беларускай сталіцы, што “нефтепереработка из флагмана экономики превращается в убыточную отрасль”. Як вынікала з ягоных слоў, на абодвух НПЗ і не толькі планы іх мадэрнізацыі сарваліся. На гэта аб’ектыўна паўплывала горшая сусветная кан’юнктура цэн, потым яшчэ леташні нафтагазавы канфлікт з Расіяй і зніжэнне аб’ёмаў паставак расійскай нафты.

Увогуле з нашым усходнім суседам адносіны застаюцца па-ранейшаму даволі нейкімі надзьмутымі, хоць А. Лукашэнка цвёрда паабяцаў днямі правесці расійска-беларускія ваенныя вучэнні маштабна і сур’ёзна. Нягледзячы на гэта, расійскі тэлеканал у сваёй сатырычнай перадачы “Міжнародная піларама” працягвае кпіць і брудна смяяцца з беларускага кіраўніцтва. Быццам бы саюзнікі вырашылі свае спрэчкі, аднак “Россельгаснагляд” узмацніў кантроль за прадукцыяй 9 беларускіх прадпрыемстваў. Не дзіўна, што сёлета экспарт беларускага харчавання на расійскі рынак знізіўся на 4 %.

Не ад добрага жыцця Беларусь прапанавала кітайцам купіць свае мяса- і малаказаводы ў Оршы, Мінску і Барысаве. Прадстаўнікі Паднябеснай могуць узяць у нашай краіне ў арэнду 20 тысяч гектараў зямлі і на гэтай тэрыторыі пабудаваць некалькі сучасных малочна-таварных ферм з 40 тысячамі галоў пагалоўя. Між тым на Кітай – асноўная надзея ў плане завяршэння мадэрнізацыі “Нафтана” і Мазырскага НПЗ. Па выніках прайшоўшай нарады ў Мінску па пытаннях пераадолення спаду ў нафтахіміі было вырашана завяршыць патрэбныя работы на гэтых двух заводах у 2019 годзе.

Як было падлічана, на гэта спатрэбіцца яшчэ 1,2 млрд. долараў. У дзяржказне і ў самых вытворцаў такіх грошай няма, а беларусам застаецца спадзявацца толькі на дапамогу кітайцаў. Аднак спецыялісты папярэджваюць, што калі сусветныя цэны на нафту зноў не ўзрастуць, то высокапрыбытковай і эфектыўнай у ранейшых аб’ёмах айчынная нафтаперапрацоўка не стане, бо і попыт на паліва зніжаецца. У свеце імкліва пераводзяць тэхніку на электраэнергію, газ і іншыя альтэрнатыўныя віды паліва. Тым часам у пачатку лета вельмі смелую заяву зрабіў упраўленец даволі высокага рангу.

Першы намеснік старшыні праўлення канцэрна “Беллегпрам” Вячаслаў Мірусін чэсна прызнаўся, што работнікі больш сотні прадпрыемстваў галіны не атрымаюць абяцанай уладамі зарплаты 500 долараў. Выйсці на такія рубяжы на швейных фабрыках канцэрна проста нерэальна, хоць ніхто іншы, як А. Лукашэнка, патрабуе “кровь из носу” да канца года выканаць гэту задачу. І вось хоць адзін чалавек прама сказаў відавочныя рэчы, за кароткі тэрмін у гэтай сферы нельга падняць прадукцыйнасць працы адразу на 30 %, работнікі “Беллегпрама” цяпер у сярэднім зарабляюць меней 300 USD.

На самой справе і кіраўнікам іншых міністэрстваў, ведамстваў належала сказаць тое самае, хоць беларуская эканоміка ў гэтым годзе пакрысу пачала выбірацца з сур’ёзнага крызісу. Павялічыць заробкі беларусам можна толькі рэальна старым спосабам, калі ўключыць друкаваны станок пустых грошай. Аднак у такім выпадку неўзабаве мы атрымаем зноў адчувальны рост цэн, адначасова аслабее і беларускі рубель, вернуцца валютны крызіс і макраэканамічная нестабільнасць, што ўжо раней праходзілі. Увогуле нам трэба шчыра прызнацца і ў тым, што наша краіна – адна з самых бедных у Еўропе і свеце. А да таго ж за апошнія 5 гадоў, па афіцыйных дадзеных Белстата, колькасць працоўных месц на заводах і фабрыках Беларусі зменшылася на 279 тысяч.

І ўсё ж прыйшла прыемная навіна, бо стала вядома, што ў маі рост цэн у Беларусі склаў толькі 0,3 %, а з пачатку года інфляцыя склала 2,7 %. Прадукты харчавання для беларусаў падаражэлі за гэты перыяд болей – на 3 %, а кошт прамысловых тавараў падрос на 1,1 %. Адзінае, што больш астатніх падаражэлі кошты на розныя паслугі – на 4,4 %. Нагадаем, што гадавы індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў нашай краіне, як ставіць задачу ўрад, не павінен перавысіць планку 9 %. У мінулым інфляцыя ў нас была шалёнай, зараз ёсць надзея, што не будуць накачваць эканоміку пустымі грашыма і цяперашні ўзровень жыцця не пагоршыцца.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.06.17 | | | | Пятніца 23.06.17 | | | | Субота 24.06.17 | | | | Нядзеля 25.06.17 | | | | Пн.26.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +14 | +16 | +13 | +11 | +12 | +18 | +16 | +13 | +15 | +17 | +14 | +14 | +15 | +20 | +17 | +11 | +13 | +15 |
| Ціск | 742 | 742 | 743 | 741 | 741 | 740 | 739 | 739 | 740 | 741 | 741 | 739 | 739 | 740 | 739 | 739 | 739 | 737 | 735 |
| Вецер м/сек | 3 | 4 | 7 | 4 | 1 | 2 | 0 | 3 | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | 6 | 7 | 6 | 2 | 4 | 3 |
| | З | Пн-З | З | З | З | У | ШТЛ | Пн | Пн-У | У | З | Пд | З | З | Пд-З | З | Пд-З | Пд | З |
| Вільготнасць | 75 | 64 | 63 | 78 | 93 | 95 | 53 | 47 | 74 | 66 | 57 | 82 | 91 | 81 | 69 | 68 | 74 | 82 | 81 |

## Дзень за днём

**Кітай атэставаў 34 беларускія малочныя прадпрыемствы. Зарплаты эстонцаў абагналі беларускія ўжо ў 3 разы. Дэфіцыт сродкаў у Пенсійным фондзе дасягнуў 150 млн. долараў. Беларусы здалі ў абменнікі валюты болей на 1 млрд. USD, чым купілі. Золатавалютныя рэзервы краіны перавысілі 5,2 млрд. долараў. У Беларусі павялічылі таксы за нанясенне шкоды прыродзе. У рэйтынгу лепшых універсітэтаў свету БДУ абышоў усе ВНУ Польшчы і Літвы. Беларусы пачалі аплочваць пакупкі з дапамогай смартфона. Па даручэнні А. Лукашэнкі беларускім хакеістам зрэзалі зарплаты на 25 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Спецслужбы папярэдзілі брытанцаў аб небяспецы новых тэрактаў, бо каля 3-х тысяч жыхароў краіны звязаны і сімпатызуюць дзейнасці Ісламскай дзяржавы.

**Бельгія.** Камітэт пастаянных прадстаўнікоў краін ЕС у Брусселі без абмеркавання прадоўжыў яшчэ на 1 год санкцыі супраць Расіі, уведзеныя за анексію Крыма.

**Катар.** У выніку канфлікту з 8 суседзямі эканоміка краіны пачала несці сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці, былі разарваны дыпзносіны, закрыты граніцы і авіяпералёты.

**Чарнагорыя.** Уступленне краіны ў НАТО выклікала ўпершыню вельмі рэзкую і балючую рэакцыю з боку Расіі, РФ адразу забараніла імпарт мясцовых він, увяла іншыя санкцыі.

**Германія.** Урад краіны вырашыў вывесці свае войскі з турэцкай авіябазы НАТО "Інджырлік", што яшчэ болей ускладніла напросты германа-турэцкія адносіны.

**Іран.** Група баевікоў "ІД" ажыццявіла нападзенне на парламент краіны ў Тэгеране, на поўдні атакавала маўзалей аяталлы Хамейні, было забіта 12 і 39 чалавек паранена.

**Бельгія.** Глава Еўрапейскага савета Д. Туск заклікаў ЕС не даваць дазвол Расіі на будаўніцтва газаправода "Паўночны паток-2", бо ён не адпавядае інтарэсам кантынента.

**Венесуэла.** З-за моцнага крызісу і невыканання ўмоў рэструктурызацыі доўгу дзяржбюджэт Расіі недаатрымаў 54 млрд. рублёў (1 млрд. USD) за выдадзеныя крэдыты.

**Чэхія.** Урад краіны вырашыў, што чэхі не будуць прымаць мігрантаў, якія прыбылі спачатку ў Італію і Грэцыю, з мэтай раўнамернага размеркавання ўцекачоў унутры ЕС.

**Украіна.** Большасцю 276 галасоў Вярхоўная рада прыняла законапраект, які афіцыйна замацаваў імкненне краіны стаць членам НАТО і гарантаваць свій суверэнітэт.

**Афганістан.** Выбух у дыпламатычным квартале Кабула стаў самым крывапралітным тэрактам за апошнія 16 гадоў, было забіта звыш 150 чалавек, больш 300 паранілі.

**Літва.** Пасля выкліку пасла краіны ў МЗС Беларусі глава МЗС Л. Лінкявічус заявіў, што Вільнюс не можа ігнараваць асобныя праблемы беларусаў, але цэніць сувязі ў эканоміцы.

**Швецыя.** Уцекач з Беларусі, экс-маёр КДБ А. Молчан паведаміў аб існаваўшых чорных схемах паставак нафтапрадуктаў на Захад пад прыкрыццём беларускіх улад.

**Расія.** У выніку бытавога канфлікту з карабіна "Сайга" 45-гадовы электрык на тэрыторыі дачнага таварыства ў Цвярской вобласці расстраляў 9 чалавек, больш чым у Лондане.

**Літва.** З 2018 года ў краіне забаранілі рэкламу алкаголя, значна абмежавалі часы яго продажы, купіць моцныя напоі можна будзе толькі па дасягненні ўзросту 20 гадоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Былы старшыня Нацбанка С. Багданкевіч папярэдзіў, што эканамічны крызіс прыйшоў да нас надоўга, у эканоміцы пачаўся сур'ёзны застой, падзенне ўзроўню жыцця.

**Астравец.** Эксперты місіі МАГАТЭ заявілі, што беларускі бок належным чынам выканаў усе ўмовы бяспекі пры выбары пляцоўкі і распрацоўцы праекта ўзвядзення БелАЭС.

**Брэст.** Ваенны эксперт А. Паратнікоў ацаніў вучэнні "Славянскае братэрства-2017" і заявіў, што ў іх больш было палітыкі, чым рэальнай карысці для ваенных.

**Асіповічы.** У апошні момант пакупнік "Ведатранзіт" адмовіўся купіць праблемны шклозавод "Елізава" за 15 млн. USD і запатрабаваў знізіць ягоную цану на трэць.

**Крычаў.** Звольнены пасля скаргі міністру падпалкоўнік міліцыі І. Вусік звярнуўся ў суд з патрабаваннем адмяніць загад МУС Беларусі аб сваім звальненні з органаў правапарадку.

**Мінск.** Памочнік прэзідэнта А. Косінец пачаў разбірацца, чаму пасля праведзенай мадэрнізацыі з мая 2016 года прастойвае мясцовы завод будаўнічых матэрыялаў.

**Быхаў.** Супраць трох жыхароў райцэнтра распачалі крымінальную справу за пагрозы выбіць сілай доўг у мясцовага 31-гадовага індывідуальнага прадпрымальніка.

**Жыткавічы.** Больш 50 байдарачнікаў і эколагаў правялі акцыю-сплаў у абарону прыроды Палесся і ракі Прыпяць у сувязі з планамі адкрыцця судаходнага шляху Е40.

**Мінск.** З-за праводзімай КДБ праверкі ад займаемай пасады адхілілі 57-гадовага міністра прыродных рэсурсаў і аховы акружаючага асяроддзя Беларусі А. Каўхуту.

**Гомель.** Жыхары некалькіх вуліц горада правялі стыхійны мітынг супраць планаў зносу прыватных дамоў і пабудовы ў іх мікраранёне шматпавярховак з гіпермаркетам.

**Клімавічы.** Ля дарожнага ўказальніка на паварот да буйнейшага ў раёне свінакомплексу "Сосны" з 25 тысячамі галоў пагалоўя ўстанавілі помнік свінні ў натуральную велічыню.

**Астравец.** Пад раніцу ад няспраўных электрасетак поўнасцю згарэў у вёсцы Ключаны прыгожы драўляны касцёл св. Іахіма XVIII стагоддзя пабудовы ў стылі готыкі.

**Мінск.** Экспертны савет зняў з выставы "Псіхалогія вобразу" ў Палацы мастацтваў карціну-трыпціх "Мая Беларусь" з выявай маладошага сына прэзідэнта М. Лукашэнкі.

**Магілёў.** Суд пакараў двух навучэнцаў каледжа 1,5-2 гадамі турмы за абліццё чорнай фарбай помніка ахвярам Халакосту на ўваходу ў былое гарадское гета.

**Мінск.** У рэдакцыі газеты "СБ. Беларусь сегодня" Майі Кляштoрнай упершыню паказалі копію справы яе бязвінна асуджанай маці, НКВД забіла і бацьку, вядомага літаратара.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Руба.** Урад Беларусі выдзеліў больш 430 тысяч рублёў з дзяржбюджэту для выратавання ад затаплення буйнога даламітавага кар'ера паблізу абласнога цэнтра.

**Ушачы.** Вучоныя Віцебскага дзяржуніверсітэта пацвердзілі, што ў 2,5 разы выраслі плошчы, захопленыя баршчэўнікам і дасягнулі 1100 га, іх за адзін год не знішчыць.

**Докшыцы.** Аграгарадок Барсукі стаў 16-м па ліку населеным пунктам у раёне, куды падвялі прыродны газ за 10 гадоў, на чарзе газіфікацыя Пруднікаў і Крулеўшчыны.

**Орша.** Прэзідэнт сваім указам ліквідаваў мясцовую і Баранавіцкую транспартныя пракуратуры, іх работнікам прапанавалі перавесціся ў іншыя месцы службы.

**Лёзна.** Пасля згвалтавання ноччу 8-гадовай дзяўчынкі міліцыя затрымала 45-гадовага раней судзімага жыхара райцэнтра, мярзотніку пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**Полацк.** З удзелам тысяч паломнікаў з Беларусі і замежжа ў Спаса-Ефрасіньеўскім манастыры прайшоў малебен з нагоды Дня памяці святой Ефрасінні Полацкай.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску "Грыгароўшчына" мытнікі Беларусі і Латвіі правялі рабочую сустрэчу па мерах скарачэння часу перасячэння граніцы паміж дзвюма краінамі.

**Гарадок.** Камітэт дзяржкантролю вобласці выявіў у раёне 14 фактаў незаконнай продажы жылля, пабудаванага з прыцягненнем сродкаў дзяржпадтрымкі, асуджаны 4 кіраўнікі.

**Глыбокае.** З траўмай галавы шпіталізавалі днём 12-гадовую дзяўчынку, якая размаўляла па мабільным тэлефоне, раптам выйшла на дарогу і патрапіла пад сустрэчнае аўто.

**Віцебск.** Раённы суд пакараў дзвюх вясковых прадаўшчыц за крадзёж і растрату на суму звыш 125 млн. рублёў 3 гадамі калоніі кожную з канфіскацыяй маёмасці.

**Браслаў.** Днём у цэнтры горада каля магазіна "Родны кут" іншамарка сутыкнулася з мотаблокам, абодва транспартныя сродкі атрымалі механічныя пашкоджанні.

**Мёры.** З фермы ААТ "Чэрасы" скралі 140 кілаграмаў камбікорму, па гарачых слядах міліцыя знайшла злодзея, беспрацоўнага жыхара з суседняй вёскі чакае буйны штраф.

**Паставы.** Падчас ХХ Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" адкрылі мемарыяльную дошку землякам, польскім кінаакцёрам С. Ясюковічу і З. Кенстовічу.

**Орша.** У Мінску вырашылі стварыць у горадзе хакейную каманду для ўдзелу з сезона 2018/2019 у Экстралізе-2 чэмпіянату Беларусі, яны будуць у яшчэ 3-х гарадах краіны.

**Наваполацк.** З пачатку года на працягу 5 месяцаў футбалістам клуба вышэйшай лігі "Нафтан" не плацілі зарплату па заключаных кантрактах, каманда на грані развалу.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэт-рэсурсаў).*

# Кіраўнікоў раёна трэба абіраць ці прызначаць?

**Нядаўна ў двух раёнах нашага рэгіёна – Пастаўскім і Шаркаўшчынскім – змяніліся кіраўнікі. На пасаду старшыні Пастаўскага райвыканкама кіраўнік краіны прызначыў Сяргея Чэпіка, Шаркоўшчынскім раёнам кіруе зараз Дзмітрый Ламака. А ўсё ж, як лепш: калі кіраўнік раёна прызначаецца зверху ці абіраецца самімі жыхарамі раёна?**

**Зміцер Лупач**

З гэтым пытаннем я звярнуўся да жыхароў Паставаў. Людзі адказвалі па-рознаму, праўда, амаль заўсёды просяць не называць іх прозвішчаў. Але ўсе(!) згодныя з тым, што кіраўніка павінны выбіраць самі людзі. Ён павінен быць мясцовым жыхаром, ведаць праблемы гэтага рэгіёна.





**Уладзімір Бароўка, Паставы:**

– У нас так атрымалася, што прэзідэнт прызначыў, але людзі падтрымліваюць. Падтрымліваюць, бо мясцовы. У яго тут сям'я, праца, тут ён набываў першы працоўны досвед. А які з яго будзе кіраўнік, пакажа час. Але людзі заўсёды з новым кіраўніком звязваюць лепшыя надзеі.



**Міхал Гіль, Паставы:**

Павінны людзі выбіраць. Мясцовыя людзі павінны раёнам кіраваць. Вось узяць нашы Паставы. Як быў Казура ў нас кіраўніком раёна, то горад нашмат лепш выглядаў. Тады Глыбокае горш глядзелася на нашым фоне, а зараз, наадварот, Глыбокае нас апярэдзіла. Таму я лічу, што як і ва ўсім цывілізаваным свеце, кіраўнікоў павінен выбіраць народ. Некаторыя нашы кіраўнікі любяць, як іх мэрамі называюць, а мэр – гэта выбарная пасада.

**Ада Райчонак, Шаркоўшчына:**

– Маё меркаванне такое, што самі людзі павінны выбіраць. Бо часта кіраўнікоў прызначаюць, як ката ў мяшку. Новага кіраўніка я пакуль добра не ведаю, таму нічога не магу сказаць. Але людзі нашы ўжо лепшага не чакаюць, баяцца, каб горш не было. Хаця куды ўжо горш?

***

Сапраўды, у прыватных гутарках жыхары Шаркоўшчыны выказваюць меркаванне, што паляпшэння чакаць няма адкуль. У пасёлку амаль няма ніякай прамысловасці, дык адкуль возьмуцца сродкі для паляпшэння жыцця. Можна было б развіваць турыстычны бізнес, у раёне ёсць шмат цікавага, напрыклад, Лужкі з яе местачковай забудовай і сядзібай Плятэраў, Алашкі з садам Сікоры, Германавічы... Але для гэтага трэба даць зялёнае святло прыватнай ініцыятыве, а нашы ўлады гэта не вельмі вітаюць. Бо пакуль мясцовая ўлада ніяк не залежыць ад тых людзей, што пражываюць у гэтай мясцовасці.

Чаму ж у нашай краіне працягваецца практыка прызначэння мясцовых кіраўнікоў зверху? Прычына тут відавочная – калі кіраўніка выбірае народ, то і справаздачыцца ў першую чаргу ён павінен перад народам, бо калі будзеш дрэнна працаваць, то наступны раз людзі цябе проста не выберуць. А калі кіраўніка прызначаюць, то і працаваць ён будзе так, як патрэбна таму, хто прызначыў. І вельмі часта тое, што патрабуюць ад кіраўніка зверху, не супадае з тым, што хочуць ад яго простыя людзі на месцах. Але ж ад волі людзей кіраўнік не залежыць, прызначыць і зняць яго можа толькі галоўны чалавек у краіне.

На маю думку, мы таксама павінны прыйсці да таго, што ўся мясцовая ўлада будзе выбірацца самімі людзьмі. Але і людзі павінны ўсвядоміць, што лепшая будучыня залежыць у першую чаргу ад іх саміх, а не ад некага зверху, незалежна ад яго пасады.

Да ўвагі нашых чытачоў

## Згубілася крыніца з рэдкімі гаючымі ўласцівасцямі

Хачу, каб адгукнуліся людзі, якім штосьці вядома аб старой крыніцы, якая размешчана недалёка ад в. Плісы ля берага ракі Шошы. Вядома, што калісьці яе вывучалі навукоўцы з Мінска і ўсталявалі рэдкія гаючыя ўласцівасці. У дадзены момант там усё зарасло і знайсці крыніцу не магчыма. Людзей, якія ведалі яе месцазнаходжанне і праважвалі там, ужо няма. Хацелася б у рамках праекта знайсці яе і абсталяваць. Можа хтосьці прачывае ў іншай мясцовасці і адгукнецца на маю просьбу ў газеце.

*З павагай, Алег Лысёнак.*



■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Два ліны і шчупак пацягнулі на 365 рублёў урону

Прырода Беларусі вельмі разнастайная! Шмат лясоў, азёраў, рэк, балот, але, як мы ставімся да яе захавання? Надыходзіць час саспявання ягадаў, і пачынаецца масавы іх збор камбайнамі. Шмат якія грамадзяне, парушаючы закон, ідуць у лес, абы зарабіць грошай, але ўсё некалі скончаецца. Пры затрыманні парушальнікаў супрацоўнікамі інспекцыі ці лясной аховы – іх чакае велізарны штраф.

Таму Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае ўсім грамадзянам аб тым, што збор ягадаў усіх відаў з дапамогай камбайна ці грабёнкі забаронены. Заканадаўствам усталявана адміністрацыйная адказнасць за збор ягадаў з дапамогай грабёнак, ч.2 арт.15.26 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных правапарушэннях" прадугледжвае адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненага прыродзе ўрону. За 1 кг. ягадаў узымаецца ўрон у памеры 2,2 базавых велічыны, ці 50 рублёў 60 капеек. Калі ж урон, прынесены прыродзе, складзе больш за 100 базавых велічыняў, то ў адносінах парушальніка будзе ўзбуджаная крымінальная справа.

Пасля некалькіх разоў збору ягадаў пры дапамозе грабёнкі ягаднікі спыняюць пладаношэнне! У шмат якіх месцах можна назіраць прыгожыя кусты чарніцаў, але ягадаў на іх няма – гэта вынік неаднаразовага ўжывання "камбайнаў".

Гляньце, што пакідаюць пасля сябе грамадзяне ў лясах! Кучы смецця, пластыкавых бутэлек, банак! Няўжо ў сябе дома так смецяць?

Глыбоцкая міжрайінспекцыя будзе ўжываць да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства самыя строгія меры адказнасці.

17 чэрвеня 2017 года, каля 23 гадзінаў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на рацэ Галбея паблізу в. Гута Пастаўскага раёна затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін П., які здзяйсняў здабычу рыбы сеткамі. Сеткі канфіскаваныя, складзены адміністрацыйны пратакол, які накіраваны ў суд. Парушальніку пагражае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічыняў і неабходнасць пакрыцця ўрону, які прынесены за злоўленых двух ліноў і шчупака ў памеры 365 рублёў.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефон "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8 (02156) 5-59-80, альбо мабільныя: 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49; 645-66-78.

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Два дні, якія змянілі хаду нашай гісторыі

**22 чэрвеня 1941 года, "роўна ў чатыры гадзіны" з нападам гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз пачалася Вялікая Айчынная вайна, як працяг Другой сусветнай вайны, што распачалася яшчэ 1 верасня 1939 года з нападам той жа гітлераўскай Нямеччыны на Польшчу. То бок для нас глыбачанаў, як і для іншых жыхароў Заходняй Беларусі, што знаходзілася ў складзе тагачаснай польскай дзяржавы, Другая сусветная вайна пачалася 1 верасня 1939 года.**

1 верасня 1939 года батальён "Беразвеч" ("Berezwecz") Корпуса Аховы Памежжа (КАП), які загадзя быў перадыслакаваны з Глыбокага на заходнія рубяжы Польшчы, разам з іншымі польскімі вайсковымі фармацыямі, ля Венгерскай Горкі, прыняў на сябе ўдар 7-й Баварскай Пяхотнай Дывізіі, у якой, у часе Першай сусветнай вайны, ваяваў сам Адольф Гітлер. Батальён КАП "Berezwecz" абараняў адрэзак даліны ракі Сола і дарогі з Чадцы праз Звардонь да Жыўца. Батальёнам камандаваў маёр Казімір Чаркоўскі.

Разбітыя аддзелы батальёна КАП "Berezwecz" і ўкамплектаваныя пад камандаваннем капітана Зыгмунта Вайдовіча на працягу ночы з 2 на 3 верасня 1939 года і далей на працягу дня 3 верасня ўступілі яшчэ ў сутычку з нямецкімі войскамі, якія прарываліся праз вёску Ліпава.

Так, Другая сусветная вайна пачалася для глыбачан і для жыхароў нашага краю менавіта 1 верасня 1939 года, пра што пераважная большасць беларусаў нават і не здагадваецца.

Была тады і геройчная абарона Брэсцкай крэпасці, у якой бралі ўдзел і нашыя землякі, апранутыя ва ўніформу польскага жаўнера. Адзін з герояў абароны крэпасці паходзіў з Шаркоўшчыны. Генадзь Трафімавіч Комель, знаўца гісторыі, які нарадзіўся ва Узрэччы, жыхар Мінска, арганізатар вандровак для мінчукоў па роднай Глыбоччыне, паказваў мне нават дом гэтага героя ў Шаркоўшчыне. Шкада, я не разлічваў на заўчасны зыход Генадзя Трафімавіча ў лепшы свет, спадзяваўся на яго артыкул аб гэтым героі для нашай газеты, але...

Немцы паспелі тады дайсці аж да беларускага горада Кобрына. З 14 па 18 верасня 1939 г доўжылася геройчная абарона Кобрына імправізаванай 60-й пяхотнай дывізіяй палкоўніка Адама Эплера.

Як вядома, 17 верасня 1939 г Чырвоная Армія перайшла польска-савецкую мяжу і, як вы ўжо, шаноўнае спадарства, здагадаліся, яна не прыйшла на дапамогу абаронцам Кобрына, а ўдарыла ім у спіну!

Атрымаўшы паведамленні пра ўступ бальшавікоў і аб першых сутыкненнях з 23-м стралковым корпусам Чырвонай Арміі, генерал Францішак Клеяберг разаслаў усім абаронцам Кобрына, у тым ліку і 60-й пяхотнай дывізіі, загад пра неадкладнае спыненне ўзброенага супраціву і адступленне на поўдзень, у кірунку пінскіх балот.

Такая вось балючая праўда! Яе старанна хавалі ўсе гады савецкай улады. Савецкія міфы мусяць быць непахісныя!

22 чэрвеня 1941 года немцы перайлі савецкую мяжу, на пяты дзень занялі Мінск, занялі потым Смаленск, падышлі да Масквы і да ракі Волга...

За што ваявалі і гінулі савецкія салдаты і партызаны, нашы бацькі і дзяды у барацьбе з «карычневай чумой» – мы ведаем, разумеем, захоўваем памяць аб іх подзвігах. Ваявалі за мірнае неба над нашымі галовамі сёння!

Беларусь панесла велізарныя матэрыяльныя і чалавечыя страты, цяпер кажуць, што загінуў не кожны чацвёрты, а кожны трэці жыхар Беларусі. Выходзячы з гэтых акалічнасцей, Беларуская ССР, як і Украінская ССР, у рангу самастойных краінаў, разам з СССР была сузаснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных нацый.

Калі ўзяць гэты факт да ўвагі, то ўзнікае заканамернае пытанне: чаму Беларусь, якая панесла велізарныя страты, зрабіла свой значны ўнёсак у вялікую Перамогу, патрапіла ў разрад краінаў-агрэсараў! Не дэ-юрэ, натуральна, а – дэ-факта! Як Германія і Японія, якія распалілі пажар Другой сусветнай вайны! Яны, як прайграўшыя вайну бакі і мусілі панесці тэрытарыяльныя страты.

Напрыканцы Другой сусветнай вайны кіраўніцтва Беларускай ССР, для кампенсацыі стратаў Беларусі, якія яна панесла ў вайне, прасіла Сталіна аб передачы горада Кёнігсберга (цяпер Калінінград) Беларусі. Каб Беларусь мела выйсце да Балтыйскага мора! Сталін абяцаў падумаць і пры магчымасці вырашыць станоўча гэтае пытанне. На той час здзейсніць гэта было вельмі проста: Беластоцкая вобласць БССР – наўпрост межавала з Усходняй Прусіяй. Сталін падумаў і – перадаў Беластоцкую вобласць Польшчы!

Угады так званай гарбачоўскай «перабудовы», калі гаварыць стала мажліва, што думаеш, літоўцы, раптам, адкрылі рот і пачалі асуджаць Пакт Молатава-Рыбентропа. Маўляў, Літва з-за гэтага Пакта патрапіла ў склад СССР, то бок – яе акупаваў Савецкі Саюз. Ага! Як адкрылі, раптам, літоўцы рот, так, раптам, яго і закрылі! Не згодныя з Пактам? Тады вярніце Вільню Беларусі! Бо, каб не гэты Пакт, вы Вільняй ніколі не валодалі б!

Скажыце, хто-небудзь чуў пра літоўскіх чырвоных партызан? Мо й былі, аднак аўтар пра такіх не чуў. Праўда, былі іншыя партызаны – «лясныя браты» – якія аказвалі супраціў савецкім уладам, змагаліся за незалежнасць Літвы аж да 1950-х гг. Не буду выказваццa адносна маіх сімпатыяў да барацьбітоў за незалежнасць любой краіны... Аднак літоўскія антысавецкія партызаны не захапілі ж горад Свянцяны (цяпер Швянчоніс) у жорсткай бітве з беларускім, ці савецкім войскам! Яго перадала Літве кіраўніцтва СССР. Літве ад Беларусі рабіліся «нарэзкі» аж да 1950-х гг. Чаму? Такое пытанне не знікне ніколі!

І ўсё ж, дзякуй нашым дзядам і бацькам за мірнае неба над нашымі галовамі сёння!



**Дальні відарыс здымка не пакідае ніякіх сумневаў – ён зроблены ва акупаваным немцамі Глыбокім. На заднім плане – дамы, якія і сёння стаяць па вул. Камуністычнай. Нямецкі самалёт – у атачэнні шматлікіх глыбачан – прызямліўся недзе на месцы сучасных вуліц Міра-Маладзёжная.** *(Здымак выкуплены адным з калекцыянераў на інтэрнэтаўкцыёне).*

С.В.Скіпар,
*галоўны дзяржсанурач Глыбцкага раёна.*

# Стрэс? Нам не па дарозе!

**Стрэс...Кожны з нас сустракаецца з ім штодня. Ён уваходзіць у наш дзень са званком будзільніка. Сустракае нас у перапоўненым аўтобусе. Суправаджае на вытворчых нарадах. Становіцца чыннікам неразумення паміж роднымі, блізкімі і знаёмымі. Не дае жыцця нават у пасцелі, патрабуючы аналізу, адзнакі і чарговага пракручвання падзей мінулага дня. А заўтра ўсё зноў спачатку...**

На сённяшні дзень адным з самых неспрыяльных наступстваў напружанага рытму жыцця ў нашым грамадстве з'яўляецца ўзрастанне стрэсавых нагрузак і ператамленне. На жаль, стрэс стаў нормай жыцця большасці з нас. Сёння мала хто можа пахваліцца ўстойлівасцю псіхікі, адсутнасцю адмоўных эмоцый і стабільным самавалоданнем. Страта душэўнай раўнавагі, пачуццё трывогі, нуды, нездаволенасць сабой і сваім жыццём, зніжэнне працаздольнасці добра вядома шматлікім. Стрэсавыя сітуацыі вядуць да развіцця псіхозаў і неўрозаў.

Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя 65% усіх хвароб прычынна злучана са стрэсам, прычым, некаторыя адмысловцы лічаць, што ў рэальнасці гэта лічба некалькі большая.

Змяншаючы ўзровень стрэсу, мы памяншаем рызыку ўзнікнення шматлікіх захворванняў, у тым ліку сардэчна-сасудзістых, нервовай сістэмы, развіцці злаякасных наватвораў, вызваляем сябе ад дрэннага самаадчування, раздражняльнасці, галаўных боляў, бессані і іншых негатыўных станаў.

Стрэс выклікае агульную напругу, таму расслабленне з'яўляецца лепшым спосабам барацьбы са стрэсам. Ніжэй прыведзеныя правілы "антыстрэсавых" паводзін, следуючы нават некаторым з іх, можна забяспечыць сабе вялікую жыццёвую ўстойлівасць:

- рыхтуйцеся да раніцы загадзя, увечары: прыгатуйце адзенне, складзіце дзелавыя паперы ў партфель і т.п. Спакойная, арганізаваная раніца памяншае непрыемнасці дня;
- не спадзявайцеся на сваю памяць, завядзіце штодзённік, у які запісвайце ўсе прызначаныя сустрэчы і справы. Так Вы пазбегнеце такога пачуцця, што штосьці забыліся зрабіць;
- адкладванне спраў на заўтра з'яўляецца стрэсавым фактарам. Не адкладайце на заўтра тое, што трэба зрабіць сёння!;
- не пагаджайцеся з тым, што дрэнна працуе. Калі будзільнік, тэлефон, дзвярны замок – крыніца сталага ранішняга раздражнення, то ці папраўце ці купіце новыя!;
- прыслабце вашы стандарты. Будзьце больш гнуткімі. Дасканаласць не заўсёды дасягальна, а калі нават дасягальная, то яна не заўсёды гэтага вартая;
- лічыце вашы поспехі. На кожную сённяшнюю няўдачу, магчыма, знойдзецца дзесяць ці больш выпадкаў, калі вам пашанцавала! Падумайце пра іх! Успамін пра добры можа паменшыць ваша раздражненне ў выпадку, калі штосьці адбываецца не так, як вы планавалі;
- падчас працы перыядычна прыходзіцеся, рабіце пацягванні, нахілы тулава. Не знаходзьцеся ўвесь час у адным і тым жа становішчы;
- высыпайцеся!;
- стварыце з хаосу парадак – дома, на працоўным месцы арганізуйце ўсё так, каб усё неабходнае заўсёды можна было лёгка знайсці. І тады не трэба будзе ў паніцы адшукваць патрэбную рэч і падвяргацца стрэсу;
- зрабіце што-небудзь для паляпшэння свайго знешняга выгляду. Калі будзеце выглядаць лепш, то гэта прымусіць вас і пачувацца лепш. Стаўцеся да сябе добра!;
- рабіце выходныя дні як мага больш разнастайнымі! Выкарыстоўвайце іх для адпачынку, сустрэч з сябрамі, шпацыраў;
- навучыцеся правільна дыхаць – глыбока і рытмічна. Пры стрэсе людзі дыхаюць хутка і павярхоўна. Гэта прыводзіць да цягліцавай напругі з прычыны недахопу кіслароду тканінам. Расслабце цягліцы і зрабіце некалькі глыбокіх удыхаў і выдыхаў, калі зразумелі, што гэта здарылася з вамі;
- даруйце і забывайце. Не жальцеся, не бурчыце, не выпрабоўвайце незадаволенасці іншымі. Прыміце той факт, што людзі вакол вас і свет, у якім мы жывём, недасканалыя.



Жывіце ў гармоніі з сабой і з навакольным светам!

Цешцеся кожнаму дню, любому надвор'ю! Беражыце сябе і сваё здароўе!



**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Мудрасць жыцця – ці ёсць межы?

**"Мудрасць у тым, каб ведаць сваё прызначэнне і сродкі выконваць яго".**

*ЛеўТалстой.*

**"Мудрасць жыцця заўсёды глыбей і шырэй мудрасці людзей".**

*Максім Горкі*

Старажытнагрэчаскі мудрэц Дэмакрыт нас вучыў, што з мудрасці выцякаюць тры здольнасці: выносіць цудоўныя рашэнні, беспамылкова гаварыць і рабіць тое, што патрэбна. Апошнія падзеі ў сацыяльным грамадстве нашых людзей паказваюць, што мы грэбуем усімі трыма здольнасцямі ў фарміраванні ўнутранага маральнага свету чалавека, а таму маем тое, што маем і ў вобласці маралі, і ў вобласці эканомікі, сацыялогіі, ідэалогіі і г.д.

Нас, педагогаў і бацькоў, не навучаюць галоўнаму метадычнаму прыёму той самай пераемнасці пакаленняў, аб якой многа гаварылі, таму, што выхаванне – гэта перш за ўсё працэс імітавання, па Дэмакрыту – "рабіць тое, што патрэбна". Прычым, гэты працэс перадачы ведаў жыцця ў большай ступені адбываецца на падсвядомым узроўні, як бы з сэрца ў сэрца без пасрэднікаў, гэта значыць, без слоў. Па Дэмакрыту – "прымаць патрэбныя і карысныя рашэнні, беспамылкова аб іх думаць і дзейнічаць у адпаведнай жыццёвай сітуацыі".

Разгледзім прыклад. Сям'я, якая мае сваіх траіх дзяцей, з высакародных намераў узяла на выхаванне яшчэ дваіх дзяцей з дзіцячага дома (хлопчыка і дзяўчынку). Дзеткі былі дашкольнага ўзросту. Сям'я дружная, да таго ж, веруючая, лад у доме і адносна матэрыяльны дастатак былі гарантаваны. І раптам падростак хлопец стаў красці грошы ў сваіх новых бацькоў, і не толькі ў іх, але і ў аднакласнікаў. Стаў не запытаўшыся шляцца па горадзе, курыць, брыдкасловіць – такі патэнцыяльны хуліган. Папаўся ў магазіне – скраў плітку шакалада, а то раптам сотавы тэлефон, з яго слоў, "валяўся на дарозе – давялося падняць..." І абманвае на кожным кроку ўсіх. Ніякія выхаваўчыя меры на яго не дзейнічаюць. Прыёмныя бацькі падумвалі ўжо аб вяртанні ў той самы дзетдом, з якога яны яго забралі.

Скажыце, паважаныя бацькі, а ці ў нашым жыцці мала такога падрастаючага пакалення, нашай змены? Масавыя крадзяжы, п'янства, наркотыкі, абман, брыдкаслоўе, прычым, на маральнай аснове.

Але вернемся да нашага юнага героя. Што ж гэта атрымоўваецца? Усяму гэтаму яго ніхто не вучыў. Значыць, гэта нешта іншае, як увабраныя юнаком на генетычным узроўні прынцыпы яго бацькоў, з якімі ён не жыве больш 7 год, таму што забралі яго з дрэннай сям'і ў 3 гадкі. Выходзіць, што не толькі рухальныя якасці бацькоў, манера хады, трымаць сябе ў грамадстве, пераймаюцца дзецьмі, але і важныя ўстаноўкі на разуменне асноў жыцця. Фундамент маральны, паводзін, мы з вамі закладваем у сваіх дзецях амаль што на генным узроўні. Чым закладваем? Сваімі бытавымі навыкамі, звычкамі, адносінамі з навакольным светам і, асабліва, адносінамі ў сям'і.

Усім ужо вядома ўздзеянне брыдкаслоўя на разумнасць чалавека. Акадэмік Пётр Гараеў эксперыментальна даказаў, што нецэнзурныя выразы здольныя сціраць з памяці ДНК разумнасць чалавека, іншымі словамі, перакрываць свет Душы. Але галоўнае тое, што падобныя ўласцівасці аўтаматычна пераносяцца на дзяцей.

Значыць, выхаванне маіх дзяцей залежыць ад маіх асабістых жыццёвых установак, ад маіх паводзін, ад маіх звычак. Аказваецца, аднаго жадання бачыць сваіх дзяцей шчаслівымі мала. Недастаткова і забяспечыць падрастаючую моладзь матэрыяльнымі дабротамі, бо гэта на корані псуе іх будучыню. Гэта – рэалізацыя няпісаных законаў Прыроды. Гэта Яна, ствараючы Жыццё чалавечае, без сумневу, спецыяльна абазначыла заканамернасці пераносу тых або іншых якасцей бацькоў на іх дзяцей. Навошта яна гэта зрабіла? Усё проста: так павялічваецца ступень адказнасці папярэдняга пакалення за наступнае. Яшчэ пытанне цікаўных персон: для чаго? Вышэйшы Розум на гэтых прыкладах аб'ектыўна паказвае сваё вялізнае жаданне ўздзейнічаць на маральнасць чалавецтва, імкнучыся да станоўчага ўздзеяння, пры гэтым пакідаючы права за кожным з нас свабоду выбара паводзін. Па Льву Талстому: "Мудрасць у тым, каб ведаць сваё прызначэнне і сродак выканаць яго". Чалавек павінен пазнаць сябе, для чаго ён створаны Прыродай, але як яму рашаць гэту задачу, якімі метадамі і сродкамі ён можа рашаць сам. На жаль, ён, чалавек, не заўсёды лепшым чынам, а бывае і горшым чынам, робіць выбар і атрымоўвае адпаведны вынік.



Усім вядома, што, калі чалавек робіць нейкае зло, караюцца яго патомкі ў сямі пакаленнях. Гісторыя захавала мноства пацверджанняў гэтаму. Але зараз мы з упэўненасцю можам сцвярджаць, што гэты закон абавязаны працаваць і ў зваротным накірунку, інакш проста не можа быць. Значыць, чым больш маральную, сумленную пазіцыю свайго жыцця выбірае кожны з нас, тым больш працяглы час ён можа прадаўжаць гэту станоўчую энергію на сваіх патомках у некалькіх пакаленнях. Па Максіму Горкаму: "Мудрасць жыцця заўсёды глыбей і шырэй мудрасці людзей". Мудрасць жыцця сапраўды не ведае межаў.

*Пры напісанні артыкула дастаткова шырока выкарыстоўваўся матэрыял друкаваных СМІ.*

# Эколагі добраўпарадкавалі Удзелаўскі сельсавет

## Рэалізацыя праекта "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый" ва Удзелаўскім сельскім савеце



**Алег Лысёнак,**
МЭГА "Прырода і мы"

**Міжнароднае экалагічнае аб'яднанне "Прырода і мы" працягвае публікацыю матэрыялаў аб ажыццяўленні праекта "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый", гэтым разам на тэрыторыі Удзелаўскага сельскага савета.**

Паводле праекта МЭГА "Прырода і мы" ў Мярэцкаўская школе створаны экалагічны атрад і грамадскі экалагічны пост. Праведзена абследаванне р. Бярозаўкі, у раёне в. Удзела, р. Маргва, побач в. Мосар. Лабараторны аналіз з ракі Маргва ўзяты побач в. Канстанцінаў Двор. Па хімічным спажыванні кіслароду паказчыкі перавышаюць норму ў 8,9 раза, фасфаты, нітраты, амоній – у норме.

Таксама праведзена даследаванне азёр Забельскае, Марцыбылінскае, Дзехцяроўскае. Асцярогу выклікае распаўсюд баршчэўніка Сасноўскага вакол азёр і звалкі смецця на іх берагах. Лабараторны аналіз вады будзе праводзіцца ў ліпені.

Экалагічная сцежка працягласцю 2 км, раней створаная ў Мярэцкаўскай школе, падоўжана па берагах азёр Марцыбылінскае, Дзехцяроўскае.

Для правядзення ўрокаў па біялогіі і пачатку руху па экалагічным маршруце побач са школай ў студзені 2017 года ўсталявана адкрытая альтанка (экалагічны клас).



На беразе воз.Царкавішча абсталявана зона адпачынку для мясцовага насельніцтва і турыстаў.

Побач в. Мосар, на беразе воз.Царкавішча, абсталявана зона адпачынку для мясцовага насельніцтва і турыстаў: усталяваны дзве распранальні, стол з лаўкамі (камплект), дзве лаўкі, тры сметнікі, мангал. Прылеглая тэрыторыя прыбраная пры садзейнічанні мясцовага насельніцтва. Першапачаткова існавала праблема даезду да возера, бо старая дарога была заараная, але падчас прац СПК "За Радзіму" дарога аднаўлена.

На рэалізацыю праекта на тэрыторыі Удзелаўскага сельвыканкама МЭГА "Прырода і мы" **выдаткавана 2157 беларускіх рублёў.**

Хацелася б адзначыць, што вельмі актыўна да рэалізацыі праекта падключылася Мярэцкаўская базавая школа, у прыватнасці дырэктар школы І.С. Гражэўская і настаўнік біялогіі С.І. Кажамяка, энтузіясты мясцовага насельніцтва в. Мосар, якія і ў далейшым будуць сачыць за парадкам на тэрыторыі зоны адпачынку.

МЭГА "Прырода і мы" таксама цесна супрацоўнічае з Удзелаўскім касцёлам. У планах – правядзенне сумесных мерапрыемстваў. У наступнай публікацыі апавяд пойдзе аб працы на тэрыторыі Плiскага сельвыканкама.





У Мярэцкіх побач са школай у студзені 2017 года ўсталявана адкрытая альтанка (экалагічны клас).

# Апярэджваючы час і злачыннасць

**Л.Міхайлоўская,**
*спецыяліст групы сродкаў і сістэм аховы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС РБ*

**Сфера дзейнасці Аховы заўсёды абмяжоўвалася так званай зонай дыслакацыі нарадаў. Такім чынам, будынкі, размешчаныя ў аддаленні ад горада, жылыя дамы грамадзян, размешчаныя ў вёсках, заставаліся не абароненымі ад пранікнення.**

Нахабства злачынцаў пераходзіць усе межы: яны не толькі маюць магчымасць бяскарна здзяйсняць крадзяжы з апусцелых дамоў, але і часцяком утульныя дамкі ператвараюцца ў "гасцініцы" для асобаў без вызначанага месца жыхарства, а таксама тых, якія вядуць антысацыяльны лад жыцця. Урон ад такіх "наведванняў" велізарны, а нярэдка ад моманту здзяйснення крадзяжу да яго выяўлення праходзіла да некалькіх месяцаў.

У пазбяганне такіх сітуацый Ахова прапануе насельніцтву паслугі па кантролі за тэхнічнымі сродкамі і сістэмамі аховы. Іншымі словамі – гэта перадача звестак аб спрацоўванні сродкаў сігналізацыі ўладальніку без выезду нараду міліцыі. Праблема абсталявання не тэлефанізаваных дамоў, кватэр і гаражоў, якая не дазваляе задзейнічаць сістэму ахоўнай сігналізацыі "Алеся", вырашана з дапамогай сістэм перадачы паведамленняў, што працуюць па радыёканале і каналу GSM. Сёння любы грамадзянін, зацікаўлены ў ахове сваёй маёмасці, можа скласці дамову на аказанне дадзенай паслугі. Аб любой падзеі на ахоўваным аб'екце, няхай гэта будзе спрацоўванне рубяжа сігналізацыі ці знікненне электраэнергіі дзяжурнага пульта ўпраўлення аддзела аховы ў хуткія тэрміны апавясціць Уладальніка ці яго давераных асобаў. Кошт паслугі па кантролі за тэхнічнымі сродкамі і сістэмамі аховы ў месяц складае 2 рублі.



На сённяшні дзень выкарыстанне тэхнічных сродкаў аховы застаецца найбольш даступным і эфектыўным сродкам забеспячэння абароны маёмасці, жыцця і здароўя грамадзян. Укараненне новых перадавых тэхналогій у дадзенай сферы вядзе з аднаго боку да падвышэння якасці прадстаўляемых ахоўных паслуг, з іншага боку да іх патаннення.

Атрымаць інфармацыю па ўсіх пытаннях, звязаных з аказаннем ахоўных паслуг насельніцтву можна ў Глыбоцкім аддзеле Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь па адрасе: г. Глыбокае, вул. Мінская,1 або па тэлефоне: 2-12-63, 2-33-45, +3729-718-33-63, +37529-686-33-63. Адрас эл. пошты: эл. пошта: *vitebsk.glub@ohrana.gov.by*



# У Беларусі стымулюецца нарыхтоўка металалому ў насельніцтва

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 16 чэрвеня падпісаў указ нумар 212 "Аб адкрыцці спецыяльных рахункаў", паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара.**

Дакументам прадугледжваецца адкрыццё спецыяльных рахункаў нарыхтоўчымі арганізацыямі ДА "Белдругасчормет" у абслуговых банках, якія будуць папаўняцца за кошт фінансавых рэсурсаў асноўнага спажыўца металалому - ААТ "БМЗ - кіруючая кампанія холдынга "БМК" для далейшых разлікаў з ломаздатчыкамі.

Указ накіраваны на стымуляванне нарыхтоўкі металалому ў насельніцтва, яго больш поўнага ўключэння ў гаспадарчы абарот краіны.

***БелТА.***

